


# Весткі й Паведамленьні

*інфармацыйны бюлетэнь Згуртаваньня "ПАГОНЯ"*

**Viestki j Paviedamleńni**

Электронны адрас: *viestki@mail.com*
✉ *P. O. Box 3225, Farmingdale, NY 11735*

**№ 8(666)**
**Жнівень 2021 г.**


# Марш Паняволеных Народаў на Мангэтане

У нядзелю, 18 ліпеня 2021 году, на 5-й авэню на Мангэтане прайшоў Марш Паняволеных Народаў. Ён быў падрыхтаваны прадстаўнікамі Камітэту Паняволеных Народаў сумесна з Беларуска-Амэрыканскім Згуртаваньнем "Пагоня". Марш адкрывае Тыдзень Паняволеных Народаў – імпрэзу, што была запачаткаваная ў 1959 годзе сіламі прадстаўнікоў менавіта Беларусі й Украіны. Камітэт Паняволеных Народаў быў створаны намаганьнямі перш за ўсё ўкраінца, прафэсара Джорджтаўнскага ўнівэрсытэту Ільва Дабранскага, які прадстаўляў Украінскі Кангрэсовы Камітэт, а таксама Івана Касяка зь Беларускага Кангрэсовага Камітэту, Міколы Гарошкі зь Беларуска-Амэрыканскага Задзіночаньня і таксама беларускіх актывістаў Міхася Тулейкі, Міколы Кунцэвіча, Антона Шукелойця.

У 1955-56 гадох хрушчоўскі СССР актывізаваў спробы прадставіць свае калёніі, БССР і ЎССР, сувэрэннымі дзяржавамі і працаваў на ўтварэньне асобных амбасадаў і ўсяляк прапагандаваў быццам бы росквіт нацыяў і нацыянальных культураў пад камунізмам. Прадстаўнікі народаў, паняволеных Саветамі, і ў першую чаргу ўкраінскія і беларускія арганізацыі, натуральна, былі абураныя такой хлусьлівай прапагадысцкай кампаніяй і вырашылі стварыць Камітэт Паняволеных Народаў, што аб'яднаў бы апанэнтаў савецкага камунізму і скаардынаваў бы дзеяньні па ўплыву на Кангрэс, Сэнат, прэзыдэнта ды іншыя амэрыканскія структуры, а таксама мог бы мэтанакіравана інфармаваць амэрыканскае грамадзтава пра камуністычны ўціск пад Саветамі. Да Камітэту далучыліся іншыя нацыянальныя арганізацыі народаў Сярэдняй і Ўсходняй Эўропы, што трапілі пад камуністычнае панаваньне. У выніку ўтварыўся ўплывовы антыкамуністычны асяродак, што здолеў прыцягнуць на свой бок шэраг амэрыканскіх палітыкаў, якія правялі ў Кангрэсе законапраект аб заснаваньні Тыдня Паняволеных Народаў, і трэці тыдзень месяца ліпеня абвяшчаўся Тыднем Паняволеных Народаў. Затым прэзыдэнт Айзэнгаўэр падпісаў закон, што стаў называцца "Грамадзкі закон 86-90", і Тыдзень стаў штогод масава адзначацца прадстаўнікамі ўсіх паняволеных народаў, ад альбанцаў да югаславаў.

І закон, і шматтысячныя акцыі не засталіся па-за ўвагай савецкіх прадстаўнікоў, і ўжо ў 1959 годзе першы сакратар Кампартыі СССР М. Хрушчоў на сустрэчы з віцэ-прэзыдэнтам Р. Ніксанам падчас перамоваў па Бэрлінскім крызісе паскардзіўся на варожасьць ЗША і абвінаваціў у падрыхтоўцы развалу СССР, спаслаўшыся на стварэньне Камітэту Паняволеных Народаў і рэзалюцыі ў Кангрэсе адносна яго.

У далейшым дзейнасьць Камітэту Паняволеных Народаў і ягоныя імпрэзы сталі часткаю змаганьня супраць савецкай камуністычнай сыстэмы, і ў выніку падзеяў 1989-1991 гадоў у

***заканчэньне на бачыне 4***



# Пра санкцыі, Амэрыку і царкву



## *Зянон ПАЗЬНЯК*

Адносна паездкі групоўкі Ціханоўскай ў ЗША. Група доўгі час дамагалася гэтай паездкі. Урэшце, іх запрасілі. Амэрыка – гэта не Эўропа. Але яны й там сьпяваюць сваю суіцыдную песьню: "Санкцыі-санкцыі". На фоне генацыду і зьнішчэньня беларускай грамадзянскай супольнасьці яна гучыць злачынна. Групнікі ведаюць, што рэжым выставіў ультыматум: будуць санкцыі – зьнішчым усю беларускую грамадзянскую супольнасьць. І злачынцы з абодвух бакоў пайшлі на зьнішчэньне супольнасьці.

І цяпер пра санкцыі. Эканамічна-гандлёвыя санкцыі могуць мець уплыў, калі яны ўводзяцца з патрабаваньнем да іншай краіны адмяніць нейкія канкрэтныя дзеяньні (скажам, спыніць экспэрымэнты па распрацоўцы атамнай бомбы ці спыніць рэпрэсіі насельніцтва па рэлігійных (этнічных) прыкметах, што выклікала хвалю ўцекачоў, і т. п.). Такія санкцыі могуць стаць дзейснымі, могуць дасягнуць выніку.

Тым часам гісторыя ня мае прыкладаў, каб санкцыі зьнішылі дыктатуру і ўладу дыктатара, прымусілі б дыктатара адмовацца ад улады. У выніку такіх дурацкіх "санкцыяў" супраць улады дыктатара грамадства гіне, народ гібее, а рэжым і дыктатар застаюцца. Гэта тое, што трэба ведаць у палітыцы. Санкцыі выгадныя тым, хто іх уводзіць.

60 гадоў санкцыяў супраць Кубы (эмбарга, эканамічны байкот) давялі да жахлівай паразы, бядоты і нястачы гэтую да 1960-га году квітнеючую краіну і харошы народ, але не паўплывалі ні на ўладу Кастра, ні на антынародны рэжым.

У Паўночнай Карэі, дзякуючы "санкцыям" людзі ядуць траву, старажытны культурны народ камуністы падстрыглі ў робатаў, у духоўна зламаны натоўп, у краіну без грамадзянскай супольнасьці, дыктатуру, якую можа цяпер зьнішчыць толькі вонкавае ваеннае ўмяшаньне, якога, аднак, ня будзе, таму што рэжым стварыў атамную зброю.

Вэнэсуэля – нафтаносная краіна, за кароткі час, дзякуючы, перш за ўсё тупым санкцыям, ператварылася ў зону гуманітарнай катастрофы, дзе 85 адсоткаў насельніцтва галадае, а сярэдні заробак – 4 даляры ў месяц. Эўрапейцы, якія туды трапляюць, ня могуць зразумець, якім чынам той народ яшчэ жыве.

Наіўнасьць і чыстаплюйства заходніх палітыкаў часам проста зашкальвае. Вось літаральна нядаўна (з нагоды зьяўленьня ў ЗША групы Ціханоўскай) экс-памочнік дзяржсакратара ЗША дасьледчык Міжнароднага ўнівэрсытэту Флярыды Дэйвід Крэймэр гэтак сказаў пра санкцыі: "На Лукашэнку трэба ціснуць, пакуль ён ня сыйдзе". Вось такія "спэцы" з думаньнем палітычных гамункулюсаў, што 70 гадоў ціснулі на калектыўнага Кім-Чэн-Ына, цяпер даюць парады беларусам пра санкцыі "супраць Лукашэнкі" (які, маўляў, павінен спалохацца і сыйсьці).

Чым можа скончыцца санкцыйная палітыка, я ўжо казаў ня раз – татальным зьбядненьнем насельніцтва, масавымі рэпрэсіямі супраць беларусаў, разбурэньнем краіны і захопам Беларусі Расеяй голымі рукамі, без адзінага стрэлу.

Трэба зьвярнуць увагу на пагрозу Макея зьнішчыць грамадзянскую супольнасьць у Беларусі ў выпадку, калі Захад увядзе эканамічныя сыстэмныя санкцыі. Гэтая заява алягічная. Пры чым тут "супольнасьць"? Навошта такім незьвязаным чынам пагражаць Захаду?

Пагроза сьведчыць аб плянах Лукашэнкі і ягонага асяродзьдзя. Яны прылічылі (гледзячы на іншыя рэжымы), што пазьбегнуць рэвалюцыі і нябясьпекі для ўлады можна тады, калі зьнішчыць ў краіне грамадзянскую супольнасьць, ліквідаваць актыўных патрыятычных людзей, пасадзіць іх надоўга ў турму, выгнаць за мяжу, а просты народ запалохаць. Але паколькі гэта справа злачынная, то яны няўклюдна паспрабавалі яе замаскаваць, зьвязаўшы з санкцыямі, думаючы ўскосна абвінаваціць Захад. Маўляў, ня ўводзілі б санкцыі – не было б рэпрэсіяў. Мы ж папярэджвалі. Такое ёсьць хітрадумства крымінальнай палітыкі. Але рэпрэсіі шырокамаштабна робяцца і ўвесь час пашыраюцца. Беларускі народ нішчаць з абодвух бакоў.

Па інфармацыі, якую я атрымаў тут, будучы ў Варшаве, групу Ціханоўскай быццам бы запрашаюць ў Беларускую Аўтакефальную Праваслаўную Царкву ў Нью-Ёрку, але гэта ўсё робіцца авантурна. Відаць, скандалу ў Варшаве зь візытам Ціханоўскай да Тшаскоўскага было замала.

Парушаныя царкоўныя правілы, царкоўны статут, амэрыканскія законы і інструкцыі. Невыпадковыя асобы, мінаючы царкоўную Раду, сьвятара, беларускія грамадзкія арганізацыі, стварылі "ініцыятыўную групу" па запросінах у Сабор "Лідэра Беларускай нацыі" Ціханоўскую. Япіскап, таксама мінаючы статут, пагадзіўся з "ініцыятарамі", прадбачліва кідае камушок сабе наперад, мяркуючы, што калі Сьвета стане прэзыдэнтам, то прызнае аўтакефалію ў Беларусі.

Складваецца ўражаньне, што гэтая наша "герархія" дрымуча сьпіць пад абажурам, нічога не чытае, нічога ня чуе і нічога ня ведае. А ўсё, што сказана, пераказана і напісана, – не ў каня корм. Так што па Сеньку й шапка. (Тут толькі фальклёр і ўспамінаецца).

Некаторыя назіральнікі, зьдзіўленыя паводзінамі групы ў Амэрыцы, сталі казаць, што газпрам-крамлёўскі праект вычарпаў папулісцкія шаблёны і ўжо заканчваецца, што Захад стаміўся ад Сьветы (ролю якой прыдумаў), і што прээзнтацыя завяршаецца.

Мяркую, што высновы пасьпешныя. Група праіснуе, пакуль Захад будзе яе ўтрымліваць. Ды й Маскве яна патрэбная больш, чым Захаду.

Тут мушу таксама заўважыць, што, як гістарычна выказаўся адзін вядомы "хакеіст", "не всё было плохое у известного Адольфа Гитлера". Ціханоўская на Захадзе побач з эклектыкай пра санкцыі, пра Пуціна ды Расею пастаянна ўжывае незалежніцкую рыторыку і падкрэсьлівае чыньнік незалежнасьці Беларусі. (Псэўды ранейшага часу тыпу Лябедзькі, Ганчарыка, Чыгіра ўстрымліваліся ад такіх словаў.) На судовым працэсе ў Вольнай Беларусі гэта Сьвятлане залічыцца.

*22 ліпень 2021 г.*

Беларусь – Амэрыка: лёсы землякоў

# Пётра Міранові́ч, мастак і грамадзкі дзеяч у Латвіі і Злучаных Штатах Амэрыкі

Пётра Міранові́ч (1902-1990), беларускі мастак, грамадзкі й адукацыйны дзеяч, нарадзіўся ў сялянскай сям'і ў вёсцы Стрэмкі Прыдруйскай воласьці Віцебскай губэрні, што па Першай сусьветнай вайне і рэвалюцыі апынулася ў Латвіі.

Пётра скончыў у 1922 годзе Краслаўскую латыскую асноўную школу, а ў 1926 годзе – Дзьвінскую (Даўгаўпілскую) Дзяржаўную Беларускую гімназію. У тым жа годзе ён паступіў у Латвійскую акадэмію мастацтваў. У часы вучобы ён падтрымліваў шчыльныя сувязі зь беларускімі арганізацыямі, браў чынны ўдзел у беларускім нацыянальным руху ў Латвіі, якая артымала ў свой склад Інфлянты або Латгалію, у якой спрадвеку жылі беларусы. Затым з 1928 па 1933 год П. Міранові́ч навучаўся ў майстэрні дэкаратыўнага жывапісу ў прафэсара Яніса Кугі, а з 1933 да 1937 – у майстэрні жывапісу прафэсара Гэдэрта Эліяса. У 1937 годзе Міранові́ч скончыў акадэмію, і ягонай дыплёмнай працай былі дзьве алейныя карціны “Жніво” й “Сьнеданьне ў беларускай хаце”, па матывах побыту беларусаў Латгаліі.

Пасьля заканчэньня акадэміі жыцьцё Пётры Міранові́ча было зьвязанае з пэдагагічнаю дзейнасьцю. Ён працаваў настаўнікам маляваньня, а пазьней інспэктарам беларускіх школаў, зьяўляўся сябрам Таварыства Беларускіх Настаўнікаў Латвіі.

Пётра Міранові́ч ад жніўня 1941 году быў намесьнікам старшыні Беларускага камітэту (у сакавіку 1942 пераназваны ў “Беларускае аб'яднаньне”), які заснаваў ў Рызе Кастусь Езавітаў. Калі напачатку 1942 году была створаная пасада рэфэрэнта па справах беларускіх школаў у Дырэкцыі адукацыі і культуры генэральнай акругі Латвія, Пётра Міранові́ч працаваў на ёй да 1944 году. Яшчэ да афіцыйнага прызначэння на пасаду, ужо восеньню 1941 г., ён пачаў актыўнае ходаньне з рэфэрэнтам Генэральнага камісарыяту Латвійскай генэральнай акругі Францам Адольфі ў пытаньні адкрыцьця беларускіх школаў. У лістападзе ён выслаў з Рыгі паўнамоцтвы Даўгаўпілскаму беларускаму нацыянальнаму камітэту ствараць беларускія школы таксама ў Ілуксцкім павеце. Міранові́ч у гэты нялёгкі час таксама працягваў сваю мастацкую працу.



У чэрвені 1944 году Пётра Міранові́ч браў удзел у працы Другога Ўсебеларускага Кангрэсу ў Менску, а з набліжэньнем Саветаў падаўся на Захад.

У 1944-45 гадох П. Міранові́ч вучыўся ў Венскай акадэміі мастацтваў у Аўстрыі, потым жыў у Зальцбургу. У 1950 годзе Міранові́ч разам зь сям'ёю пераехаў у Амэрыку, жыў у Брукліне, Нью-Ёрк. Ён працаваў супэрам у будынку і таксама зарабляў дадаткова, малюючы краявіды Проспэкт парку на продаж.

Творчасьць мастака ад самага раньняга пэрыяду была прысьвечаная краявідам Латгаліі, рацэ Дзьвіне-Даўгаве, а таксама этнаграфічным абразкам вясковага жыцьця латгальскіх беларусаў, выявам беларускай інтэлігенцыі краю. Пётра Міранові́ч намаляваў абраз Божае Маці для алтара Прыдруйскага касьцёлу (цяпер Піедруя). На Чацьвертай мастацкай выставе Фонду культуры Латвіі ў 1937 годзе ягоныя карціны “Латгалачка”, “Вяртаньне дамоў”, “Вандраваньне”, “Адліга” ды “Рака Айвіекстэ” экспанаваліся разам з працамі вядомых латыскіх мастакоў Я. Кугі, Г. Эліяса, В. Пурвіта, Я. Тылберга ды іншых. З-пад ягонага пэндзлю паўстала цэлая галерэя асобаў беларускага нацыянальнага пантэону — Скарына, Сапега, Каліноўскі, Купала, якая была затым падоўжаная выявамі выдатных дзеячаў пазьнейшага часу: Н. Арсеньневай, А Салаўя, У. Сядуры-Глыбіннага, С. Сахарава.

У амэрыканскі пэрыяд жыцьця Пётрам Міранові́чам было напісана шмат партрэтаў беларускіх эмігрантаў, пэйзажаў Латгаліі, намаляваных па накідах і фатаздымках, прывезеных мастаком. Ягоныя творы ўпрыгожвалі шмат чые хаты ў беларускай грамадзе Амэрыкі. Па ўспамінах сп. Вітаўта Кіпеля, Міранові́ч быў актыўным у грамадскім жыцьці беларускай грамады Нью-Ёрку і ваколіцаў. Браў чынны ўдзел у дзейнасьці БАПЦ, застаючыся веруючым каталіком, і дапамагаў таксама навучаньню дзяцей у суботняй школе пры саборы Сьв. Кірылы Тураўскага ў Брукліне. Выбітным творам Пётры Міранові́ча стала карціна “Беларускія эміgranты”, якая экспанавалася на розных амэрыканскіх выставах і атрымала вялікую папулярнасьць.

Мастак да апошніх дзён свайго жыцьця ўдзельнічаў у шматлікіх мастацкіх выставах, чытаў лекцыі, пісаў артыкулы пра беларускую культуру і асьвету, афармляў розныя імпрэзы, канцэрты, выставы. Не зьяўляючыся фармальна сябрам Беларуска-Амэрыканскага Задзіночаньня (БАЗА), Міранові́ч браў актыўны ўдзел у мерапрыемствах, ладжаных арганізацыяй, і ахвотна ахвяраваў грошы на яе дзейнасьць, а таксама на дзейнасьць БАПЦ.

Асаблівa блізкія дачыненьні Міранові́ч падтрымліваў з іншымі беларусамі родам з Латгаліі: Франьцішом Бартулём, Аляксандрам Махноўскім. У 1964 годзе ў Нью-Ёрку адбылася пэрсанальная мастацкая выстава Пётры Міранові́ча, арганізаваная Беларускім Інстытутам Навукі і Мастацтва (БІНіМ), на якой экспанаваліся 63 працы мастака. У Фундацыі Крэчаўскага у Нью-Ёрку захоўваецца шэраг карцінаў – партрэтаў беларускіх нацыянальных дзеячаў, напісаных Міранові́чам. Пра творчасьць Пётры Міранові́ча пісаў Уладзімер Сядура, а сучасны мастак Вячка Целеш з Латвіі выдаў некалькі год таму кнігу пра свайго калегу-папярэдніка.

**Віталь ЗАЙКА**

# Слоўнік нацыянальнай ідэі

## Т - як талерантнасьць

Ты можаш быць цудоўным суседам, выдатным бацькам, мужам – пра якога мараць усе сяброўкі тваёй жонкі. Ты можаш быць законапаслухмяным грамадзянінам, які сумленна плоціць усе ўстаноўленыя падаткі. Асобай з чульлівым сэрцам, якая час ад часу дае капейку нават на акцыі з сумніўнай высокай мэтай. Ты можаш пароўну любіць катоў і сабак. Быць лякальным патрыётам і верным сынам сваёй краіны. Ты можаш не выкідаць пад ногі смецьце, а калі ўбачыш смецьце, якое выкінуў нехта іншы, то проста схілішся, падымеш яго і выкінеш у найбліжэйшую сьметніцу..., але ў вачах пэўнай групы людзей ты так і застанешся скацінай – бо ты недастаткова талерантны.

Аднак ведай, што гэта нармальна. Беларусы ніколі не былі талерантнымі ў тым значэньні, якое навязвае нам сучасны сьвет.

**Віталь ВОРАНАЎ**

## Марш Паняволеных Народаў

***заканчэньне з бачыны 1***

краінах Усходняй і Цэнтральнай Эўропы камуністычнае панаваньне зьнікла, а Савецкі Саюз быў разбураны, і ўтварылася незалежная Рэспубліка Беларусь. Тады дзейнасьць арганізацыі заняпала. Але неўзабаве, ад 1995 году пасьля прыходу да ўлады Лукашэнкі, беларускія арганізацыі аднавілі правядзеньне Тыдня Паняволеных Народаў, і застаюцца найбольш актыўнымі ўдзельнікамі й да гэтага часу.

Сёлета Тыдзень праводзіўся зь перапынкам у два гады, дзеля пандэміі карона-вірусу, бо летась усе публічныя сходы былі забароненыя. Сёлета адміністрацыя Байдэна меркавала выпусьціць дэклярацыю, што звычайна падпісвае прэзыдэнт ЗША да Тыдня Паняволеных Народаў, замяніўшы словы “Тыдзень Паняволеных Народаў “ на “Тыдзень Вольных і Адкрытых Грамадзтваў” (Free and Open Societies Week), але дзеля пратэсту Фундацыі Ахвяраў Камунізму была змушаная адмовіцца ад замены. Тым ня менш у дэклярацыю трапіла, хіба ўпершыню, тыповая лявацкая прапаганда кшталту “абароны правоў LGBTQ” і “сацыяльнай роўнасьці”.




Удзельнікі імпрэзы сабраліся каля гатэлю “Пляза”. Сёлета іх было менш, чым звычайна. Затым усе вырушылі да катэдры Сьв. Патрыка пры 50-51 вуліцы, дзе былі пасьвечаныя сьцягі Паняволеных Народаў і адбылася імша за Паняволеныя Народы, якую правіў мансынёр Рычы. Пасьля імшы ўдзельнікаў імпрэзы значна паболела. Зрабіўшы фатаздымкі на памяць, удзельнікі вырушылі Маршам па 5-й авэню да Калюмбус-цыркулю і Цэтральнага Парку. Па дарозе гучэлі заклікі “Свабоду Беларусі!”, “Свабоду Кубе!” “Свабоду ўсім паняволеным народам!” Затым у Парку, за Мэйн-Манумэнтам, адбылося адкрыцьцё Тыдня Паняволеных Народаў у Нью-Ёрку. Прагучэлі ўшанаваньне сьцягу і гімн ЗША. Сп. Яан Куўм, прадстаўнік Камітэту Паняволеных Народаў, прывітаў прысутных, распавёў пра дэклярацыю прэзыдэнта ЗША і прачытаў рэзалюцыю ўдзельнікаў адкрыцьця Тыдня Паняволеных Народаў.

**Віталь ЗАЙКА**

### Уплаты ў Згуртаваньне
**Складкі й ахвяраваньні:**

У. Белаблоцкі ............60
Е. Пыльская ............60
П. Сторажаў .............60
К. Пляўга ................10

**Шчыры дзякуй!**

### Абвестка

Сходы Згуртаваньня “Пагоня”, якія звычайна адбываліся ў другую суботу кожнага месяца, часова (да адмены ўладамі г. Нью-Ёрку забароны на правядзеньне масавых мерапрыемстваў) праходзіць ня будуць.

------------------

*Аб імпрэзах,ладжаных Згуртаваньнем “Пагоня”, можна даведацца наведаўшы старонку арганізацыі ў Фэйсбуку:* ***https://www.facebook.com/groups/134811029970802/***

### Ахвяравалі на выданьне бюлетэня *Весткі й Паведамленьні*:

У. Белаблоцкі ............30
Е. Пыльская ..............30
П. Сторажаў ..............30

**Усім шчыры дзякуй!**

**Уплаты ў Згуртаваньне “Пагоня” шліце на адрас:**
***P. O. Box 572***
***New York, NY 10113***
**Чэкі выпісвайце на імя скарбніка “Пагоні” *Viktar Yedzinovich.***

Шаноўныя сябры, калі ласка, своечасова аплочвайце сяброўскія складкі й падпіску на ***“Весткі й Паведамленьні”.*** *(інфармацыю пра стан падпіскі глядзіце на канвэрце справа ад прозьвішча).*

*Падпісацца на бюлетэнь можна даслаўшы ў рэдакцыю аплату гадавой падпіскі (**$30**) на адрас рэдакцыі:*
***Marat Klakotski***
***P. O. Box 3225***
***Farmingdale, NY 11735***
*Чэкі выпісвайце на імя скарбніка “Пагоні” **Viktar Yedzinovich**.*